**№ 83 (1646)**

Серада, 14 мая 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### *Надвор'е*

У Мінску сёння чакаецца ўдзень — +25...+27, уначы — +15...+17, дождж, навальніца; у Брэсце ўдзень — +16...+18, уначы — +11...+13, дождж; у Гродне ўдзень — +17...+19, уначы — +9...+11, дождж; у Віцебску ўдзень — +26...+28, уначы — +12...+14; у Гомелі ўдзень — +27...+29, уначы — +18...+20; у Магілёве ўдзень — +28...+30, уначы — +17...+19.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Аляксандра Фядуту могуць выклікаць на дуэль

Пазаўчора вечарам зала Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі была аддадзена палітычнаму бамонду. Лідэры партый, грамадскіх рухаў, няўрадавых структур, журналісты і нават асобныя парламентарыі сабраліся на прэзентацыю кнігі "Палітычныя партыі Беларусі".

Ужо па загалоўку інфармацыі чытач можа сказаць: галоўным аўтарам яе з'яўляецца вядомы журналіст Аляксандр Фядута. Дададзім: у сааўтарах — Алег Багуцкі і Віктар Мартыновіч. Вядома ж, ужо гэтыя "три молодца" атрымаюць не толькі ганарар ад фонду імя Фрыдрыха Эберта, пад эгідай якога рэалізоўваўся праект, але, не выключана, і адлуп некаторых палітычных партый. Няма ўпэўненасці, што ўсе пагодзяцца з тымі характарыстыкамі, якія дадзены ў кніжцы. А таму нічога надзвычайнага не будзе, калі нейкі харызматычны кіраўнік партыі выкліча Аляксандра Фядуту на дуэль.

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

## 101-гадовая жыхарка Пінска атрымала пасведчанне партызанкі

Жыхарка Пінска Аляксандра Барташ, якой споўніўся 101 год, афіцыйна прызнана партызанкай Вялікай Айчыннай вайны. Нядаўна ёй уручылі пасведчанне і памятны знак "Партызан Беларусі". Такі статус атрымаў і яе 73-гадовы сын Леанід, які жыве ў Драгічынскім раёне.

Маці і сын у гады вайны дапамагалі партызанам атрада імя Яўгена Макарэвіча брыгады імя Свярдлова, які дзейнічаў на Драгічыншчыне. Яны збіралі для партызан каштоўную інфармацыю, даглядалі параненых.

Звесткі аб сувязі сям'і Барташ з партызанамі маюцца ў архівах яшчэ з першых пасляваенных гадоў. Аднак толькі нядаўна сям'я накіравала ў Камісію па справах былых партызан і падпольшчыкаў пры Савеце міністраў Беларусі патрэбныя дакументы. Рашэнне было прынята без прамаруджвання — і маці, і яе сына прызналі партызанскімі сувязнымі.

**Віктар КРОТ.**

## Інваліды-калясачнікі хочуць людзьмі звацца



На плошчы Бангалор у Мінску прайшоў санкцыянаваны мітынг інвалідаў-калясачнікаў. Удзел у ім узялі каля 20 чалавек з Мінска.

Акцыя была арганізавана Мінскай аб'яднанай арганізацыяй грамадскага аб'яднання "Рэспубліканская асацыяцыя інвалідаў-калясачнікаў" (МАА ГА "РАІК"). Як паведаміў БелаПАН старшыня РАІК Сяргей Драздоўскі, падставай для яе правядзення паслужыла невыкананне з боку дзяржавы канстытуцыйных правоў інвалідаў-калясачнікаў: права на прыстойнае жыццё, на свабоду перамяшчэння, на ўдзел у жыцці дзяржавы, на працу, на ахову здароўя, на прыстойнае сацыяльнае забеспячэнне і права на адукацыю.

Ён зазначыў, што з года ў год у краіне распрацоўваюцца праграмы па рэабілітацыі інвалідаў, якія, як правіла, падмяняюць і адмяняюць сабой папярэднія. Апроч таго, многія праграмы прымаюцца без узгаднення з аб'яднаннямі інвалідаў, у выніку чаго яны вымагаюць вялікіх фінансавых затрат і з'яўляюцца малаэфектыўнымі.

Удзельнікі мітынгу прынялі зварот да кіраўніка дзяржавы, урада, парламента краіны, у якім канстатуюць, што органы ўлады ігнаруюць Канстытуцыю і заканадаўства Беларусі, а таксама груба ўшчамляюць правы грамадзян краіны, вымушаных перамяшчацца пры дапамозе інваліднай каляскі. "Асаблівую небяспеку для нас — інвалідаў з хранічнымі захворваннямі, уяўляе неабдуманы і непадмацаваны страхавым полісам пераход на платныя паслугі, у выніку чаго мы не зможам праходзіць рэабілітацыю і атрымліваць лячэнне", — сказана ў звароце. "Мы хочам і можам быць паўнапраўнымі грамадзянамі краіны, — зазначаюць у звароце ўдзельнікі мітынгу. — Аднак мы не можам прыносіць карысць дзяржаве з-за таго, што праблема перамяшчэння застаецца для нас галоўнай перашкодай".

**Вольга АСІПЕНКА, БелаПАН.**

## «Ратуша» змагаецца за існаванне

Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Ратуша" накіравала ў Абласны гаспадарчы суд пярэчанні на іск Упраўлення юстыцыі аб ліквідацыі арганізацыі.

Упраўленне юстыцыі, нагадаем, настойвае на ліквідацыі "Ратушы", абвінавачваючы арганізацыю ў грубых сістэматычных парушэннях заканадаўства. Парушэнні былі зафіксаваныя двума папярэджаннямі Упраўлення юстыцыі 24 красавіка мінулага года і 9 красавіка гэтага і былі звязаны з выкарыстаннем "Ратушай" памнажальнага абсталявання — рызографа.

"Мы настойваем на тым, што гэта розныя парушэнні", — заявіў БелаПАН намеснік старшыні "Ратушы" Фелікс Гавін.

**Ірына ЧАРНЯЎКА.**

# Голые фразы

## Можно ли остановить рост цен популистским пафосом?

**Если читатель помнит, в феврале Александр Лукашенко подверг обструкции собственное правительство за то, что оно якобы "чрезмерно обирает" население. Имелось в виду резкое подорожание жилищно-коммунальных услуг, а также крутой рост прочих цен и тарифов. Желая навести в этом деле порядок, Лукашенко отдал Комитету госконтроля распоряжение проверить обоснованность этих цен и тарифов. А недавно он и вовсе заявил, что обеспечение социальных стандартов станет главной задачей его политической жизни в нынешнем качестве. "Рыночного разбоя в ценообразовании на социально значимые услуги населению быть не должно", — изрек Лукашенко.**



*Тарелка манки, ложка и чек на подносе мужчины во время обеда в городской столовой (г.Барановичи, 2003 год).*

**Фото Евгении ЯНУКЕВИЧ, IREX/ProMedia.**

В связи с этими патетическими высказываниями, прозвучавшими 11 апреля на совещании "по вопросам разработки и внедрения единых нормативов социального стандарта по обслуживанию населения", представляют интерес результаты проверки, проведенной государственными контролерами. Возьмем для примера бытовые услуги. В 1999 году по указу президента был установлен перечень социально значимых услуг из тринадцати видов (считалось, что без них ну никак невозможно). Как отметили контролеры, правительство постепенно сокращало список, и сейчас в нем осталось только три позиции. Итак, сегодня, по мнению правительства, невозможно обойтись лишь без услуг парикмахерских (кроме салонов), ритуальных услуг (в пределах похоронного минимума) и услуг бань.

Можно, разумеется, иронизировать по этому поводу, но, увы, это действительно тот уровень, на котором только и можно ныне реально проводить социальную стандартизацию. Этот уровень упал по банальной причине экономического неблагополучия и, смеем предположить, вопреки желанию главного белорусского политика. Но чистота помыслов в данном случае значения не имеет — от этого простому гражданину не слаще.

Впрочем, и такой минимум социальной защиты может завтра показаться недосягаемой роскошью. Утилизация человеческих останков в пределах "похоронного минимума" будет, очевидно, обеспечена и впредь — все же в христианской стране живем, а вот насчет остального есть сомнения. В частности, как сказано в справке госконтроля, "структурные изменения в сети бытового обслуживания на селе привели к тому, что, например, в сельских населенных пунктах Копыльского и Наровлянского районов отсутствуют парикмахерские, Жабинковского и Кормянского районов — бани...". То есть право вымыться по социально низким ценам, что гарантированы государством, вроде бы и есть, а вот самой бани нет.

При этом бани, парикмахерские, приемные пункты, ателье и мастерские службы быта на селе закрывались не по чьей-то злой воле. Эти предприятия попали в катастрофическое финансовое положение по банальной причине: сельское население просто-напросто обнищало, и платить ему стало нечем. Причем произошло это после объявления аграрной экономики приоритетной отраслью.

Резкое повышение цен и тарифов на коммунальные услуги увеличило долю населения, живущего ниже так называемой черты малообеспеченности. В декабре прошлого года она была на уровне 89 тыс. рублей (около 50 долларов) в месяц на человека, а число тех, кто оказался ниже, достигло трех миллионов. Причем тех, кто опустился в два раза ниже (до 25 долларов, то есть до 80 центов в день), стало 300 тысяч.

Исходя из этих обстоятельств следует, очевидно, оценивать и дискуссию о необходимости организации в стране так называемой адресной социальной помощи. Последняя предполагает, что социальные работники изучают заявления нуждающихся в такой помощи граждан и выделяют ее только после тщательной проверки уровня их благосостояния. Понятно, что когда социальную помощь делят на всех, то большая часть ее достается людям вполне благополучным, близким к власти или каналам распределения. Поэтому адресность нужна, в чем нас убеждают и зарубежные эксперты. Но нынешние масштабы бедности таковы, что впору говорить о надвигающейся социальной катастрофе, которую вряд ли сможет предотвратить нынешняя власть. Вот лишь один вопиющий факт: 4/5 многодетных (в большинстве с тремя детьми) семей живут ниже упомянутой черты. Тут впору вести речь, например, о создании международных благотворительных фондов, которые работали бы с населением напрямую, не прибегая к посредничеству правительственных структур.

Возвратимся, однако, к сфере коммунальных услуг, в которой госконтролеры сделали немало интересных открытий. Так, согласно ряду нормативных документов, плата граждан за пользование жилыми помещениями и жилищно-коммунальные услуги в этом году не должна превышать 60% затрат жилищно-коммунальных предприятий на оказание этих услуг. Фактически с учетом потребления электроэнергии и газа уровень возмещения населением затрат на жилищно-коммунальные услуги в целом составил в январе 2003 года 62%, в феврале — 63,5%. Это данные Министерства экономики. А, по расчетам Комитета госконтроля, реальный уровень возмещения еще выше: в январе он составил 72%.

Иными словами, жилищно-эксплуатационные службы, вместо того чтобы снижать издержки, все более успешно покрывают за счет населения свои растущие расходы. Коммунальщики к тому же традиционно практикуют завышение объемов выполненных работ. В этой отрасли постоянно создаются "новые рабочие места" для руководителей и специалистов. Поэтому, отмечают специалисты госконтроля, одно только элементарное сокращение в организациях жилищно-коммунального хозяйства удельного веса специалистов и руководителей с 20,3 до 15% от общей штатной численности позволило бы получить годовую экономию зарплаты до 35 млрд. рублей.

Традиционный перечень "скрытых резервов" коммунальщиков был бы неполным без указания на необходимость и возможность уменьшения потерь тепла в сетях. Так, если бы потери тепла в Могилевской области уменьшились хотя бы до их уровня в Гродненской, могли бы сэкономить в 2002 году только по графе прямых затрат на производство тепловой энергии 5,7 млрд. рублей.

Некоторые из этих красноречивых данных А.Лукашенко привел в своем большом выступлении в парламенте 16 апреля. В справке госконтроля содержится множество иной подобной цифири не только по коммунальной сфере, но и по медицинским, образовательным, транспортным и прочим услугам. И говорят эти цифры не столько о "рыночном разбое в ценообразовании на социально значимые услуги", сколько о затратном механизме старой системы хозяйствования. Ее реформирование и впрямь стоило бы сделать смыслом работы правительства. Но оно во главе с А.Лукашенко предпочитает популистский пафос.

**Константин СКУРАТОВИЧ.**
*("Белорусские новости".)*

**ДАЙДЖЕСТ**

## Тони Блэр продолжает терять министров из-за Ирака

Британский министр по вопросам международного развития Клэр Шорт ушла в отставку, обвинив премьер-министра страны Тони Блэра в невыполнении обещаний относительно послевоенного обустройства Ирака. Как говорится в письме, которое Шорт направила Блэру, премьер нарушил ранее данные обещания, касающиеся роли ООН в восстановлении страны. Кроме того, говорится в письме, Блэр вместе с министром иностранных дел Великобритании Джеком Стро ведут "секретные" переговоры по проекту новой резолюции Совбеза ООН. По словам Шорт, эта резолюция противоречит тому, что она сама обещала ранее на встречах с членами парламента.

## Индия снова испытала новую зенитную ракету

Индия провела еще одни испытания новой модели ракеты класса "воздух—воздух". Это уже вторые подобные испытания за последние три дня. Ракета, разработанная Организацией исследования и развития Министерства обороны Индии, была запущена на испытательном полигоне в Чандипуре. Радиус ее действия составляет от 25 до 40 километров.

После испытания ракеты премьер-министр страны Атал Бехари Ваджпаи выступил с заявлением, в котором обвинил международную общественность в двойных стандартах и назвал технологические санкции, введенные против Индии после проведения ею ядерных испытаний, дискриминационными. "Среди наших соседей мы можем видеть много примеров подобных двойных стандартов, — сказал Ваджпаи. — Никаких санкций не было введено против стран, виновных в распространении ракетных и ядерных технологий. Некоторые из них даже получают щедрую экономическую помощь".

## В Колумбии обворовали президента

Колумбийские власти арестовали двух воров, которые нашли бумажник президента Алваро Урибе, и сняли с его кредитной карточки 4225 долларов. Президент потерял свой бумажник во время визита в северный город Букараманга. Мошенники после снятия денег с кредитной карточки президента отправились праздновать это событие. В потерянном президентом бумажнике было удостоверение личности Урибе, его кредитная карточка и записка с пин-кодом к карточке. Воры сняли деньги из 32 различных банкоматов. Расследование началось на следующий день, когда президент обнаружил пропажу бумажника и изменения своего счета.

## Президент Азербайджана вернулся из турецкого госпиталя в Баку

Президент Азербайджана Гейдар Алиев вернулся в Баку из Турции, где он проходил лечение в госпитале военно-медицинской академии Гюльхане. 80-летний Алиев находился в госпитале с 4-го по 11 мая. По официальной версии, он проходил медицинское обследование в связи с резким понижением артериального давления и повреждением ребра. Однако турецкие и ряд азербайджанских СМИ сообщали, будто Алиева отправили в Анкару в связи с резким ухудшением состояния здоровья и будто в госпитале он впал в кому и был отправлен в реанимацию.

Эти сообщения опроверг помощник президента Фуад Ахундов. По словам советника, в турецком госпитале "Гюльхане" президент Азербайджана проходил курс обследования и отдыхал.

## Шпионов Саддама нашли в редакции «Аль-Джазиры»

В редакцию катарского спутникового телеканала "Аль-Джазира" были внедрены агенты иракских спецслужб с целью повлиять на содержание передач и добиться выгодного для режима Саддама Хусейна освещения событий. Об этом сообщает газета "Сандей Таймс". Журналисты газеты, в свою очередь, упоминают документы, попавшие в руки неких противников Хусейна. Согласно этим документам, в "Аль-Джазире" работают три иракских агента, двое из них — телеоператоры. В "Аль-Джазире" категорически опровергают все подозрения. Как заявил представитель телеканала, редакции ничего не известно ни о каких агентах внутри компании, работающих на какую-либо иностранную разведку.

В конце апреля о том, что в "Аль-Джазире" работают шпионы Хусейна, заявил лидер Иракского национального конгресса Ахмед Халаби. Тогда редакция телеканала не стала выступать с официальным опровержением.

Добавим, в субботу в Басре группа иракцев напала на съемочную группу "Аль-Джазиры". Десятки человек окружили микроавтобус с журналистами и начали выкрикивать оскорбления, обвиняя телеканал в поддержке Хусейна. Несколько иракцев взобрались на крышу машины.

## Пойман «пиковый валет»

Отряды коалиции в Ираке захватили Ибрахима Ахмада Абд аль-Саттара Мухаммада, бывшего с 1999 года начальником штаба иракских Вооруженных сил. Представители Пентагона не раскрыли деталей его поимки. Аль-Саттар занимал 11 строчку в списке из 55 разыскиваемых коалицией ближайших сподвижников Саддама Хусейна. К настоящему моменту, по заявлению Пентагона, пойманы почти два десятка лиц, фигурирующих в этом списке.

Как сообщалось ранее, в понедельник же представитель Центрального командования США майор Брэд Лоуэлл сообщил, что после нескольких дней переговоров отрядам коалиции сдалась доктор Рихаб Рашид Таха, руководившая иракскими лабораториями по разработке биологического оружия, в которых велась работа с сибирской язвой, ботулином и афлатоксинами. Инспекторы ООН прозвали доктора Таха за ее деятельность "доктор Микроб".

## Шаноўныя сябры! Не заўважым, як наступіць ліпень — другое паўгоддзе.

**Каб не застацца без «Народнай волі», раім у бліжэйшыя дні аформіць падпіску.**
**Растуць цэны на ўсё. А кошт індывідуальнай падпіскі на «Народную волю» — ранейшы.**
**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі.**



**КРИК ДУШИ**

## За забором госпиталей...

58-й День Победы средний медицинский персонал Слуцкого военного госпиталя встретил со слезами на глазах. Плачут от безысходности: Министерство обороны расформировало 1139-й госпиталь, а медицинских сестер, как лишний балласт, выставили за забор.

Горестное письмо в "Народную волю" подписали 34 теперь уже бывшие служащие Вооруженных сил Республики Беларусь.

Из письма в редакцию:

*"...Нас, честно говоря, вышвырнули, не сказав даже слов благодарности за наш труд...*

*...Когда пришел приказ о нашем расформировании, от нас отказались все: Слуцкое ТМО, райисполком, горисполком, облисполком, Министерство обороны, Администрация президента. А у нас дети, многие женщины одиноки, одни растят детей. Нам приходится жить на подачку государства: в 24.000 рублей...*

*...На бирже труда (Центр занятости) нам ничего не обещают. В городе и районе не только медсестрой, а и на другой работе женщинам нигде не устроиться".*

Разрушение в Беларуси системы гарантированного медицинского обеспечения военнослужащих обернулось бедой для среднего медицинского персонала. И это по всей стране, а не только в Слуцке. Именно медсестры оказались прежде всего невостребованными. Такова плата за реформу в наших Вооруженных силах. Но ведь сокращенным (а среди них немало таких, кому еще далеко до пенсии), надо как-то если не жить, то хотя бы выживать. Как это сделать, если *"ввиду отсутствия вакантных мест"*, судя по ответу безработным медсестрам начальника военно-медицинского управления Министерства обороны РБ Н.Позняка, работы пока не предвидится? А нужно было бы "предвидеть" и хорошенько подумать, приступая к реформе, о судьбах живых людей, кто не по своей воле оказался за забором медицинского учреждения.

По всей видимости, обездоленным стоило бы объединиться, ведь поодиночке отстоять свои права вряд ли получится.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

**ОВАЛЬНЫЙ ЗАЛ**

## Негосударственная пресса — спонсор Министерства связи?

Парламент принял в первом чтении Закон "О почтовой связи".

Министр связи Владимир Гончаренко, представляя в Овальном зале законопроект, сообщил, что почтальоны со своими сумками ежедневно проходят 140.000 километров, общий вес доставляемой почты составляет 2500 тонн, а зарплата сельского почтальона... 83.000 рублей.

Депутаты засыпали члена правительства довольно острыми вопросами.

Иван ПАШКЕВИЧ поинтересовался, когда же тарифы связи станут одинаковыми для государственных и негосударственных газет? Министр ответил кратко: такого не будет, иначе почта развалится.

Владимир ПАРФЕНОВИЧ пытался выяснить, почему при недостатке средств связисты отказывают в заключении договора на распространение негосударственных газет. К примеру, в Горках?

Владимир Иванович ответил, что у его министерства всего 45 киосков на всю страну. Остальные — подчинены Министерству информации. Потому и претензии по данному вопросу необходимо направлять Михаилу Подгайному.

Игорь Баслык возмущался тем, что Минсвязи дерет с районных газет за распространение 70 процентов стоимости. Журналистам и печатникам достается всего лишь треть стоимости газеты.

Василий ГОРГУН добавил, что в Лунинце вынуждены подписку принимать у себя в редакции и нанимать собственного почтальона для доставки газеты подписчикам. Оказывается, обходится это значительно дешевле.

Министр обещал разобраться и принять меры...

Рассмотрение законопроекта во втором чтении запланировано на эту же сессию.

**Никита ПИГУЛЬ.**

**ГДЕ ЭТО ВИДАНО...**

## Суд при закрытых дверях?

Читаю Декрет №13 А.Лукашенко, датированный 15 апреля 2003 года. Согласно данному акту, с 26 апреля с.г. "...уполномоченные общественных объединений (организаций) могут быть представителями физических лиц по гражданским делам в общих судах лишь в том случае, если законом им предоставлено право представлять и защищать в суде права и законные интересы членов этих общественных объединений и других лиц".

Если вдуматься, то по поручению общественных объединений или организаций защитниками физических лиц фактически могут быть только профессиональные адвокаты, имеющие специальную лицензию. Юрист, работающий в общественной организации, но не имеющий адвокатской лицензии, не может быть подзащитным. Почему?

Обоснование дал в послании к народу и парламенту А.Лукашенко:

*"Под давлением так называемых "вядомых" впихнули, иначе не скажешь, норму, что в суде общественные организации выступают чуть ли не адвокатами, защищая интересы своих же поборников свободы и демократии, и так далее. И что получилось? Мы фактически девальвировали, уничтожили институт адвокатов. Они (представители общественных организаций) приходят в суд, не дают ему работать, гвалтом кричат, вроде и адвоката не надо, они сами адвокаты. Вчера поделили гранты, сегодня пришли друг друга защищать..."*

Странное видение проблемы, не правда ли? Логика закона подменяется логикой эмоций. А.Лукашенко как будто не знает, что если кто-то мешает работе суда, к нему можно применить меры в соответствии с законом. А законы тут вообще не причем. Словом, смешал вождь горох с капустой.

Ситуацию проясняет пресс-релиз РОО "Белорусский Хельсинкский комитет" от 16 апреля:

"В 2002 году суды Беларуси рассмотрели 163012 гражданских и 288871 административных дел. Адвокаты участвовали лишь в 16318 (3,6%) делах. Правозащитники — около 500 (0,1%). В правозащитные организации за бесплатной юридической помощью обращаются, как правило, граждане, которым профессиональные адвокаты отказали в связи с тем, что их правовой конфликт затрагивает интересы государственных чиновников, или по политическим мотивам, а также те, кто не в состоянии оплатить услуги адвокатов. БХК считает, что указанный Декрет направлен на ограничение деятельности правозащитных организаций, которые обладают правом представлять интересы физических лиц в судах в соответствии со своими уставами.

Как видим, все очень просто — кое-кому хотелось бы, чтобы суды вообще проходили при закрытых дверях. Правозащитники, видите ли, мешают им вершить беззаконие. Так чего-чего, а беззакония в Беларуси и без этого хватает.

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**

Народная Воля
14 МАЯ 2003 г.

РОКИРОВКА

**Сергей СКРЕБЕЦ:**

# «Не очень хочется быть первым на отстрел...»

*В депутатской группе "Республика" поменялась власть. Теперь "Республикой" руководит не трехкратный олимпийский чемпион Владимир Парфенович, а экс-генеральный директор торгового дома "Белбабаевское", заместитель председателя комиссии по бюджету, финансам и налоговой политике депутат Сергей Скребец.*

Сергей Николаевич "захватил власть" на вполне законных основаниях: согласно уставу "Республики" руководителя группы должны переизбирать каждые полгода. *"Чтобы не было застоя и каждый мог попробовать себя в роли вождя"*, — объясняет генерал **Валерий Фролов**, основатель "Республики".

Сергей Скребец утверждает, что кардинальных перемен в стиле и методах работы известной депутатской группы не будет. "Республика" по-прежнему будет акцентировать внимание на острых и злободневных вопросах белорусской действительности.

— Мы хотим, чтобы у нас были единомышленники во всех регионах Беларуси, — говорит Сергей Николаевич. — Я считаю, что сегодня необходимо создать региональное движение группы "Республика", в которое бы входили депутаты местных, поселковых, областных и городских советов, разделяющие наши взгляды на жизнь.

**— Некоторые Ваши коллеги считают, что не только "рулить" "Республикой", но и просто входить в состав этой группы —небезопасно для жизни. А Фролов и Парфенович открыто говорили о том, что им угрожали...**

— Мне тоже угрожают. Но я не хотел бы заострять внимание на этих вещах...

*(В депутатской среде говорят, что Сергей Николаевич ходит под статьей "невозвращение кредитов". Некоторые люди из окружения экс-гендиректора торгового дома "Белбабаевское", в том числе и его помощник по депутатской работе, сегодня находятся в местах не столь отдаленных. Скребец чудом уцелел. Однако некоторые аналитики склонны полагать, что власть, при желании, всегда сможет надавить на нынешнего руководителя "Республики", используя этот рычаг. Хотя, по нашей информации, виноватым себя Сергей Николаевич не считает.)*

Как у нас шутят, не очень хочется быть первым на отстрел. Но работать надо. И я готов ко всем трудностям. Кстати, при всех минусах в должности руководителя "Республики" есть много плюсов.

**— Например?**

— В ближайшие полгода я буду определять, чем должна заниматься наша депутатская группа. Согласитесь, прежде всего от руководителя зависит, какие взгляды исповедует группа. И последнее слово всегда остается за руководителем. Но при этом хочу подчеркнуть, что все решения в "Республике" принимаются коллегиально. И несмотря на то, что официально руководителем группы являюсь я, лидером "Республики" по-прежнему остается генерал Фролов.

**— Несмотря на то, что Вы моложе и, наверное, состоятельнее Фролова, не боитесь потеряться на его генеральском фоне?**

— Нисколько не боюсь выглядеть бледно на фоне Фролова. Мы, депутаты группы "Республика", делаем одно общее дело. Я против того, чтобы бросать на амбразуру только, скажем, Фролова или только Парфеновича, потому что сегодня с ними все нормально, а завтра так тряхнут, что не станет ни лидера, ни группы. Наши противники должны знать, что Фролов не один. Парфенович не один. И я не один. Мы вместе. И нас много...

### *Взгляд со стороны*

## Новая сила

По словам руководителя Независимого института социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ) **Олега Манаева**, последнее исследование НИСЭПИ принесло неожиданные результаты.

На вопрос: *"Как Вы относитесь к деятельности депутатской группы "Республика"?"* 33,1% респондентов ответили "положительно", 33,6% — "безразлично", 15,4% — "отрицательно", а 17,9% затруднились ответить.

Электорат, выразивший положительное отношение к деятельности "Республики", — это преимущественно молодая, экономически активная и образованная часть общества, озабоченная ухудшением не только своего материального положения, но также экономического и политического климата в стране в целом. Люди, понимающие, что главный виновник ухудшения — не мифические *"внутренние и внешние враги"* и даже не правительство и местные власти, а сам президент, упрямо не меняющий свою политику. Иными словами, это тот самый электорат, на который старается опираться белорусская оппозиция, но который пока что "не отвечает ей взаимностью". Причин отсутствия "взаимности" немало. Это и постоянная дискредитация оппозиции мощной информационно-пропагандистской машиной государства, и серьезные ошибки, допущенные самой оппозицией, а самое главное — вытеснение оппозиции за пределы не только структур власти, но и государственной системы вообще. Став внесистемной, оппозиция потеряла рычаги эффективного влияния на общество, а потому стала восприниматься как слабая и маргинальная, от которой почти ничего не зависит.

В этом кроется подлинная причина положительного отношения многих белорусов к деятельности депутатской группы "Республика". Несмотря на весьма скромные итоги своей деятельности (чаще всего ей не удается заручиться поддержкой большинства, необходимого для проведения или блокирования какого-либо решения), "республиканцы" стали привлекать к себе внимание и чиновников, и рядовых избирателей как раз тем, чего так не хватает "старой гвардии" оппозиции — включенностью в систему государственной власти. Члены группы, пользуясь своим статусом, стали обращаться с депутатскими запросами в правительство, выступать при обсуждении важных вопросов в парламенте и с других официальных трибун. Для многих людей, работающих в нынешней системе, они — свои, несмотря на быстро приобретаемый имидж "новой оппозиции". Есть также основания предполагать, что одним из подлинных мотивов недавнего признания белорусского парламента Парламентской ассамблеей ОБСЕ стало желание легализовать "Республику" и, таким образом, включить ее в систему взаимодействий с Европой. Теоретически говоря, эта группа может стать своеобразной "точкой опоры", а затем консолидации и роста всех сил, заинтересованных в переменах в Беларуси.

Основатель "Республики" Валерий Фролов, на мой взгляд, может стать наиболее перспективным кандидатом в президенты на следующих выборах. В глазах белорусского электората он обладает и несомненными личными достоинствами. Генерал танковых войск, прошедший все ступеньки военной карьеры (а по рейтингу доверия армия наряду с церковью стабильно входит у белорусов в тройку лидеров), умудренный жизнью и смелый человек (открыто заявить о несогласии с "батькой", не имея ни политического, ни экономического "тыла", отваживаются немногие), вышедший из низов и не "запятнанный" принадлежностью ни к интеллектуалам-демократам, ни к чиновникам-бюрократам, столь нелюбимым народными массами, к тому же сохраняющий связи как с белорусским, так и с российским истеблишментом — все эти черты могут привлечь симпатии миллионов белорусов.



*Сергей Скребец (слева) и Валерий Фролов: генералы "Республики".*

**Владимир ЕГОРОВ, экс-председатель КГБ, член комиссии по Национальной безопасности Палаты представителей:**

## «Не могу сказать, что Фролов простак или слабак»

— Я знаю всех, кто входит в состав "Республики". Каждый из них — личность неординарная, в том числе тот же Фролов. Не могу сказать, что это ребята ничего не стоящие, ничего не знащие и ничего не видевшие в жизни. Наоборот, все довольно серьезные и солидные.

Я бы не сказал, что их точка зрения серьезно расходится с действительностью. Надо отдать должное, что они имеют смелость выразить свою точку зрения. Другое дело, что иной раз, прежде чем выступать, им не мешало бы посидеть, подумать, посоветоваться и вообще вести себя более солидно. Уж если критиковать, то критиковать аргументированно. Если писать воззвания или обращения, то это надо делать согласованно, чтобы потом не было реплик типа: *"А я это не подписывал!"*.

Называть "Республику" оппозицией я бы не стал. На мой взгляд, это просто люди со своей точкой зрения. До оппозиции им по-моему еще далеко.

**— Олег Манаев в своих исследованиях пишет, что Фролов — потенциальный кандидат в президенты. Вы с ним согласны?**

— *(Смеется.)* Как генерал генералу, мне Фролов импонирует. Не могу сказать, что он простак или слабак. Ему иногда не хватает элементарных знаний, например, по экономике... Что касается его командирских качеств, знаю, что в Литве, будучи командиром дивизии, он пережил очень непростое время...

Понимаете, каждый может записать себя в помощники Иисуса Христа, но от этого мало что изменится. Впрочем, время покажет, кто на что годен...

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото Юрия ДЕДИНКИНА.**

ПУЛЬС

## Гаючы сок застаецца ў лесе

З кожным годам скарачаюцца аб'ёмы прамысловай нарыхтоўкі бярозавага соку на Віцебшчыне, дзе здаўна гэтая справа была пастаўлена на высокі ўзровень і прыносіла немалыя прыбыткі.

Веснавая падсочка дрэў для здабычы бярозавіку — смачнага і карыснага напою — стала заняткам нявыгадным, з-за чаго лясгасы, якія раней ахвотна займаліся зборам соку, адмаўляюцца ад гэтага промыслу. Калі ў мінулым годзе яны паспелі нарыхтаваць і здаць 320 тон соку, то сёлета запланавалі здабыць толькі 150 тон.

Адмаўляюцца ад перапрацоўкі гаючай сыравіны і кансервавыя заводы, якія раней пастаўлялі гандлёвым арганізацыям тысячы дэкалітраў папулярнага напою.

Відаць, ні харчовая прамысловасць, ні гандаль не вывучаюць попыт на бярозавы сок у краінах СНД і дальняга замежжа, дзе гэты прыродны, экалагічна чысты напой мог бы, магчыма, набыць прыхільнікаў і стаць яшчэ адной крыніцай валютных паступленняў у бюджэт. Ну а тое, што бярозавіку не стала ў беларускіх крамах і рэстаранах, — наогул дзіўна і нават сорамна.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Пілаванне дроў скончылася трагедыяй

**Тры жыхары Вялікай Бераставіцы пасля працы пілавалі дровы бензапілой. Калі працуючая піла была пастаўлена на зямлю, адзін з іх паслізнуўся на мокрай траве і ўпаў проста на бензапілу. Ад атрыманых пашкоджанняў ён на месцы памёр.**

"Гэта трагічны выпадак... Трава была мокрая пасля дажджу, і таму гэта здарылася. Я спрабаваў да прыезду "хуткай дапамогі" затрымаць крываток... Але дарэмна", — кажа Сяргей Пятліцкі, адзін са сведкаў трагічнага здарэння.

Паводле папярэдніх звестак, загінуўшы быў у нецвярозым стане. Па факце смерці ўзбуджана крымінальная справа.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## Вучыцеся зарабляць сельскім турызмам

Падрыхтаваны і перададзены ў парламент праект дапаўненняў у закон "Аб турызме", накіраваны на развіццё сферы сельскага турызму. Дакумент стаў вынікам першай міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Сельскі турызм і магчымасці яго развіцця ў Беларусі", што нядаўна прайшла ў Мінску.

Праект дапаўненняў прадугледжвае з'яўленне ў законе артыкула пад назвай "Аграэкатурызм", прычым гэты тэрмін мае на ўвазе "часовы адпачынак у сельскай мясцовасці ў аздараўленчых, эстэтычных альбо пазнавальных мэтах, звязаных са знаходжаннем у памяшканнях, што належаць грамадзянам у сельскай мясцовасці, і выкарыстаннем турысцкіх рэсурсаў згаданай мясцовасці".

У найбліжэйшы час аб'яднанне "Агра- і экатурызм" пачне праводзенне семінараў для абучэння жадаючых займацца сельскім турызмам; плануецца таксама выданне метадычнай літаратуры.

**Лавінія АРЭШКА.**

ХАЧУ СКАЗАЦЬ

## Ветэранам патрэбны і цёплыя словы, і лекі, і жыллё, і добрае харчаванне...

Прайшоў амаль тыдзень пасля самага, на мой погляд, найвялікшага свята — Дня Перамогі. А я ўсё не магу стрымаць слёз. І не толькі з-за ўспамін пра тыя ваенныя гады, пра ахвяры, якія панесла Беларусь. Крыўдна ад таго, што нават Дзень Перамогі выкарыстоўваецца ў палітычных мэтах. Што паказвала Беларускае тэлебачанне? Не столькі тых, хто праліваў кроў на франтах і ў партызанскіх зонах, колькі тых, хто сёння пры ўладзе і любіць даваць парады. Мяне кранула асабліва адно выказванне. Не памятаю дакладна словы Лукашэнкі, вымаўленыя ім перад ветэранамі, запрошанымі на святочны канцэрт у Палац Рэспублікі, але сэнс іх такі: ветэранам "ніякія падачкі, ніякая грашовая дапамога" наогул не патрэбны, ім патрэбны выключна "цёплыя словы і выдатнае здароўе".

Хочацца спытаць: няўжо з цёплых слоў можна зварыць кашу альбо набыць зусім не танныя лекі ці прадукты харчавання? Ці нашы дзяржаўнікі раптам забыліся пра тое, што мы ўжо далёка не падлеткі, а ў 70—80-гадовым узросце мець выдатнае здароўе без лекаў і добрага харчавання немагчыма ў прынцыпе? Альбо "цёплыя словы" — гэта назва новай беларускай валюты? Нават самае гучнае "дзякуй", як кажуць у народзе, на хлеб не намажаш і ў шклянку не нальеш. Прабачце за такі практычны погляд на рэчы...

У мяне складваецца такое ўражанне, што раней, калі нашы галасы на выбарах былі яшчэ патрэбны, у выступленнях высокіх чыноўнікаў гучала іншая інтанацыя. Зараз, калі машына выбарчых фальсіфікацый наладжана і змазана, як кажуць, маслам, лёсы ветэранаў сталі "да лямпачкі".

**Іван ГУРЫНОВІЧ,**
**проста ветэран.**

*Мінск.*

ПРЕДЛАГАЮ!

## А если пойти по пути той же Литвы?

Уважаемая редакция!

Хочу поблагодарить за публикацию о заработной плате высших госчиновников. Из документа, фрагмент которого вы напечатали, видно, что они, кроме окладов, имеют множество различных надбавок. Поди разберись, кто сколько себе "накрутил".

А почему не пойти по пути той же Литвы? Позвольте через вашу газету обратиться к депутатам, чтобы они все-таки сделали попытку исправить те недостатки, которые заложены в действующей системе оплаты труда госчиновников. Для этого предлагаю разработать, по примеру Литвы, проект специального закона о заработной плате госслужащих, в котором определить зарплату президенту в 12 средних зарплат по Республике Беларусь, а остальным госслужащим — на несколько порядков ниже. Почему именно 12? Я считаю, что наш народ может обеспечить своему президенту не менее достойную жизнь, чем это делает литовский народ своему руководителю.

Следовательно, принятие такого закона решает две задачи: зарплата президента и госслужащих устанавливается народом через своих представителей и одновременно ставится в прямую зависимость от величины средней зарплаты по республике, т.е. от жизненного уровня населения. А постоянное его повышение является основной заботой президента и госслужащих, целью и критерием результативности их деятельности.

Кроме того, создаются предпосылки для установления атмосферы взаимопонимания, доверия между народом и властью, так как доходы госслужащих по данному закону будут прозрачными.

Проект подобного закона, обнародованный в печати, без сомнения, станет поводом для широкого обсуждения избирателями, вызовет их поддержку или отрицание, но наверняка никого не оставит равнодушным, даже если принятие самого закона в нынешних условиях окажется неосуществимым.

**Семен КОРУНЕЦ,**
**житель г.Барановичи.**

## 113 гениев!

*Кто спасет экономику Беларуси? Молодежь! Вернее, гениальная молодежь. На сегодняшний день нашлось только 113 гениев. Но и это, согласитесь, не мало.*

Белорусские юноши и девушки занимают призовые места на международных экономических конкурсах, и для них решили устроить местное соревнование. Называется это мероприятие "Общереспубликанский экономический конкурс". Проводится он первый раз, но уже собрал более ста гениев из разных уголков страны, которые с февраля этого года решали сложные задачи, требующие не только знаний основ экономики, но и нестандартного мышления.

Цели же этого конкурса — не только найти лучших из лучших в экономике, но и устроить небольшой ликбез для нашего населения в законах большой и малой экономики.

Недавно состоялось награждение завоевавших первые три места по итогам первого раунда. Они получили призы от компаний "БЕЛХАРД", "McDonalds", и "ТетраСистемс".

В декабре будет подведен итог всех десяти заочных раундов, и тогда же пройдет финал, на котором и выяснится абсолютный победитель. Финал, в отличие от промежуточных раундов, пройдет не по почте, а очно, перед лицом комиссии.

Победителям будут предоставлены льготы по поступлению или обучению на экономических специальностях во всех ВУЗах страны. И еще эти гениальные счастливцы будут выступать на республиканских и международных соревнованиях по экономике.

Организаторы выразили надежду, что в последующих конкурсах участие будет принимать больше людей.

**Павел АРТЮШКЕВИЧ.**

КАДР

## На Комаровке открыли гусиный водопой

Два гуся из бронзы работы известного белорусского скульптора Владимира Жбанова украсили фонтан у Комаровского рынка в Минске. "Мы стремились не разрушить авторскую композицию Ирины Синельник, создавшую фонтан в виде эстакады, на ступени которой падает вода", - сказал В.Жбанов.

Скульптор отметил, что прототипа бронзовых гусей сегодня можно увидеть в Минском зоопарке. "На рынке в Ждановичах я купил белого красивого домашнего гуся, который позировал нам полтора месяца. За это время гусь по кличке Сашка, который вначале всех чурался, так привык к людям и домашним котам, что стал развязывать нам шнурки на обуви и гулять со скульпторами, крича и размахивая крыльями.

На клетке в зоопарке вскоре появится надпись о том, что гусь-натурщик Сашка позировал сразу для двух бронзовых птиц, которые украшают фонтан на Комаровке", — сообщил Жбанов.

*("Белорусские новости".)*



# Дзе вы, песні над чыстай вадой?

**Уладзімір АРЛОЎ, кінарэжысёр.**



Амаль з недаверам устаўляў я ў свой фільм "Песні над мутнай вадой" жудасна-ўражлівую лічбу: аказваецца, на кожны квадратны метр Партызанскага раёна ў год выпадала ападкаў — у выглядзе смецця, выкідаў з заводскіх трубаў, цяжкіх фракцый аўтамабільных выхлапаў — ажно 256 кг. А што ўжо гаварыць пра Заводскі раён?! Такое становішча было на 1985 год. Некалькі разоў фільм, з прозвішчамі і лічбамі, паказвалі па БТ, былі абмеркаванні на розных узроўнях — шуму было!

— Не страшыцеся асабліва таго, што можна пабачыць і панюхаць. Небяспечней тое, што не мае паху і не бачна, — "прасвячаў" гледачоў з экрана галоўны санітарны ўрач раёна Ігар Першын.

І паведаў, як заводы патаемна, уначы, бы тыя таці, паціху злівалі атрутныя адыходы электролізу ў гарадскую каналізацыю, а значыцца, наўпрост у шматпакутную Свіслач.

І, сеўшы з кінакамерай у лодачку ля цырка, праплылі мы па забруджанай Свіслачы да плацінкі ля Камвольнага камбіната — гэта значыцца, па задворках, па "закуліссю" заводаў. Авой, колькі ўбачыў аб'ектыў прыхаванага ад поглядаў тых, хто трапляе на прадпрыемства праз парадныя вароты, рухаючыся міма фасадаў, дошак гонару і паказчыкаў! Але гэта было тады, у 1985-м, а што цяпер? Якія песні? Над якой вадой?

Даволі цэльная панарама намалявалася дзякуючы сур'ёзнаму і патрэбнаму фестывалю фільмаў пра экалогію, які праходзіў у Міжнародным экалагічным універсітэце імя А.Д.Сахарава, побач з трактарным заводам, на тэрыторыі ўсё таго ж Партызанскага раёна.

Вада сёння не такая мутная, песень новых шмат, і самая сумная і галосная пра навалу, што горш за вайну, — пра чарнобыльскую катастрофу, прыкметы якой, як сказаў той мудры чалавек, таксама не ўбачыць і не пачуць паху іх. І будзе забруджаная зямля Беларусі, як сказана ў адным з фестывальных фільмаў, трыста гадоў. 300 мінус 17... Ці дажывём?

Усялякая фармуліроўка ў дыпломах журы пачыналася словамі "Беларускі саюз кінематаграфістаў прысуджае прыз за...". Найбольш прафесіянальнай і адпавядаючай ідэі "Прыцягванне ўвагі грамадства к экалагічным праблемам і выхаванне экалагічнай свядомасці" была прызнана журы кінематаграфістаў работа "Жылі-былі..." — дванаццаць хвілін болю пры аглядзе выдатнага фотажывапісу Сяргея Брушко, зманціраванага з сённяшнімі партрэтамі былых жыхароў і відэакадрамі былых вёсак Зоны. Выдатная музыка Уладзіміра Кур'яна, цымбалы Ларысы Рыдлеўскай і кант "Малюся!" у выкананні хору Ігара Мацюхова садзейнічалі бясспрэчнаму поспеху фільма ў студэнтаў-гледачоў, будучых эколагаў.

Дазналіся гледачы фестывальнай праграмы, што ў Беларусі дзесяць тысяч азёр і дваццаць восем тысяч рэчак. Прагледжаныя фільмы апявалі родны край — за два дні ў нас склалася ўражанне, што пабывалі там усюды, адпачылі, падыхалі чыстым паветрам, папілі чыстай вадзіцы, што павандравалі разам са стваральнікамі фільмаў. Гэтаму спрыяў агульны высокі ўзровень аператарскага майстэрства.

Ці ведаеце, што ў дзень чалавеку патрэбна 12 кг чыстага паветра? Нашы балоты ў свеце называюць "лёгкія Еўропы". І ў гэтых "лёгкіх" гняздзяцца дзівосныя птушкі — арлы, бакланы, чаплі, квітнеюць да 150 відаў архідэй, носяцца дзікі і касулі. Якіх таямніц з жыцця птушак і жывёлаў дазнаўся глядач з праграмы фільмаў Ігара Бышнёва, якія непаўторныяназіранні камеры аператара Паўла Зубрыцкага ўражвалі нас! Абодва — прызёры фестывалю. Прафесіяналы шчыра прызнаваліся, што мала хто з іх здольны гадзінамі караўліць, як будзе вылупляцца птушаня з яечка ці як жаба пацягне за паўтара кіламетра свайго самца на сабе, каб уладкавацца ва ўлюбёным вадаёме. Была жартоўная прапанова дадаць абодвум кінематаграфістам яшчэ і прыз "За стойкасць пры шматгадзінным абкусванні камарамі". Дарэчы, Ігар прыехаў на закрыццё фестывалю з Бярэзінскага запаведніка проста са здымак чарговага фільма пра таканне глушцоў, пакінуўшы там з камерай "у засадзе" Паўла.

І яшчэ яскравае ўражанне: фільм з невыразнай — і, здаецца мне, увогуле няўдалай — назвай "Схароненая небяспека". На фоне кулінарных рэцэптаў прыгатавання страў з рыбы, пераважна з карпа, ідзе працэс ператварэння ікрынкі ў сталую рыбіну; чалавечыя рукі ўскрываюць карпа, каб падрыхтаваць яго да фаршыравання... а з ягонага жывата выпадаюць гайкі, дыёды, шайбы. І заклік: "Не фаршыруйце планету ядам!" Аўтар узнагароджанага фільма Андрэй Савіч паказаў нам спробу стварэння новай кінамовы на спалучэнні анімацыі і відавой выявы, плаката і рэпрызнай гумарэскі.

Гаротны лёс "выцiснутых" з зоны людзей: далі ім кватэры, неяк уладкаваліся яны ў вялікім горадзе. Але цягне іх — раз на год гэта дазваляецца — у зону, да "родных папялішчаў", разрабаваных, разбураных, з дзіркамі ў даху. І — слёзы, успаміны, енк...

У фільме "Простыя гісторыі" Алега Дашкевіча, які складаецца з трох дакументальных навел пра тры лёсы перасяленцаў, і гледачоў, і журы ўразіла трэцяя частка: сталы чалавек не можа існаваць без коніка. І вось у нейкай кінутай пуні, у мікрараёне пасярод горада трымае ён воз і кабылу Марусю. Штораніцы "выезд" незвычайнага "транспарту" выклікае цікавасць як дарослых, так і дзяцей.

Атрымаў узнагароду і Віктар Аслюк за фільм "Грахі нашы цяжкія, сабака" — пра ветэрынара з Віцебска Пятра Арэхава. Нельга без узрушэння спачуваць людзям, якія згаджаюцца з прапановай "Айбаліта" ўсыпіць старога пса, шматгадовага сябра гаспадароў, ці назіраць за жанчынай, якая бярэцца выходжваць сляпога коціка-калеку.

Усе пералічаныя — маладыя кінематаграфісты, вельмі маладыя. У большасці — вучні славутага Віктара Дашука. Старт у іх — шматабяцаючы.

Былі ролікі, якія трэба "круціць" у эфіры па дзесяць раз на дні: пра смецце, якое мы пакідаем пасля сябе "на прыродзе", і пра рукатворныя пажары. Зайдзіце ў які заўгодна прыгарадны лясок — ну, хаця за універсамам "Паўночны": смецце, газеты, тара, пластыкавыя пузыры ад мінералкі, поліэтыленавыя пакеты — ступіць няма куды. Аднак тут жа, каля жытла, жыхары "вылізваюць" свае аўтамашыны. Крыўдна, але мелі рацыю немцы-акупанты, калі называлі тутэйшых "швайнамі". "Трэба ў лесе прыбіраць за сабой! Гэта ж і вожыку зразумела", — заклікае міні-фільм. І вожыкі, накалоўшы на іголкі пластыкавыя пузыры, цягнуць іх у сметнік. Коратка, 15 хвілін, і вобразна!

Прага да шашлыкоў пахвальная, дзе ж "расслабляцца", як не на прыродзе! Але, зноў жа, глядзіце, што пакідаюць кампаніі пасля сябе — і добра яшчэ, калі загасяць пражэрлівае полымя. Бліскануў у трох ролях — Дзеда Мароза, міліцыянта і маляра — Яўген Крыжаноўскі ў выразным роліку "Навагоднія ёлкі". І падобнай тэлепрапаганды, звароту да сумленнасці і розуму насельніцтва праз ТБ ніколі не будзе зашмат. Хай не шкадуюць на тое грошай леснікі, каму-нальнікі, прыродаахоўнікі.

Невядома каму быў адрасаваны фільм пра пілаванне і выкарыстанне баравой лесавіны з аднachасовым заклікам берагчы лес. Ці ад нас тое залежыць, ці мы яго валім, прадаем, экспартуем? А хто — дык чытайце матэрыялы пра знішчэнне пушчаў Анатоля Казловіча. Такім жа безадрасным здаўся фільм пра пахаванне пестыцыдаў — асобы ў масках доўга варочаюць бочкі з застарэлай атрутай і чамусьці пад "Адажыо для струнных" С.Барбера. Каго і да чаго заклікаюць?

***

Якая ж сёння ў тым жа Партызанскім раёне экалагічная абстаноўка? Ці ўсё гучаць "песні над мутнай вадой"? Гучаць. Хаця і некалькі святлейшыя. Раней няшчасную вуліцу Пуліхава "крылі" выкіды пылу то з завода Кірава, то з гіпсавага. Цяпер — толькі з аднаго і значна менш: на гіпсавым выпускаюць гіпсакардон па КНАУФ-тэхналогіі. На электратэхнічным, як ва ўсім свеце, упор зрабілі не на ачышчальныя прыстасаванні, а на змену тэхналогіі.

У маім даўнім фільме галоўны інжынер трактарнага завода абяцаў убраць выкіды з ліцейнага цэха да 2000 года — і галасы Я.Паплаўскай і А.Ціхановіча падхоплівалі гэтую "песню": "Двухтысячны год... двухтысячны год..." У ліцейным ёсць змены: у 2—2,5 раза зменшыўся выкід у паветра фенола — але ж паднімаем шкло ў машыне, калі едзем міма, па Ванеева, на мост. Пра які год праспяваюць нам сёння на заводзе, што побач з Сахараўскім экалагічным універсітэтам?

Мой герой, абаяльны Ігар Першын, як высокі спецыяліст "кінуты" на самы небяспечны ў экалагічным плане раён — ён галоўны санітарны ўрач Заводскага раёна. А там — усё з пачатку: ліўнёвак бракуе, пруды-адстойнікі не дабудаваныя, кінутыя — цяжкія фракцыі асядаюць, а лёгкія, тыя ж нафтавыя плямы са сцёкамі, зліваюцца наўпрост у Свіслач. Але ён малады, энергічны, здужае. І мо нейкі наступны эка-фестываль пройдзе ўжо ў Заводскім раёне. Мо, урэшце, песні будуць гучаць толькі над чыстай вадой і — вясёлыя. Дачакаемся.

